Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 21 - 27 лістапада 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№47 (135)

**Лепшы з вядомых**

**ВЯЛІКІ ФУТБОЛ У РЭГІЁНЕ вынікі**



6-я старонка.

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Іра: Маладзечна, 11 год, рост 143, вага 29; шануе насельнікаў Прастаквашына, па вечарах грае на гітары і вельмі не любіць прыбіраць.*

*Фота Аляксандра ПРАКАПОВІЧА.*

Конкурс "Фотамадэль рэгіёна" працягваецца. Узяць удзел запрашаем усіх жадаючых. Пераможцу чакае прыз ад "РГ". Сімпатыі чытачоў раздзяліліся і разам з **Кацяй** (№ 42) яны аддаюць свае галасы **Свеце** (№ 46).

## Імя

# Аляксандр Маслякоў:

*Быў нават такі смешны выпадак: у аэрапорце я неяк сустрэў Піліпа Кіркорава, і той кажа...*

Інтэрвью з вядомым вядучым - на 6-й стар.

# Рэйкавая вайна працягваецца

**За студзень-чэрвень 1944 г. партызаны правялі сотні аперацый па падрыву эшалонаў. На ўчастках:** Мінск-Маладзечна - 55, Маладзечна-Крулеўшчына - 96, Маладзечна-Ліда - 91. Сённяшнім дыверсантам да іх далёка.

Чытайце аб гэтым на 3-й стар.

## Навіны

### Забытае старое

***СМАРГОНЬ. Райвыканком аднавіў Дошку гонару.***

На ёй будуць красавацца твары 40 перадавікоў вытворчасці.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

### Не плаваюць

***ВАЛОЖЫН. У вёсцы Гародзькі справіў наваселле дзіцячы садок.***

Пабудаваны яшчэ 4 гады таму будынак не мог знайсці гаспадара. І вось прапісаліся ў ім дашкольная ўстанова і школа мастацтваў (усялілася раней). Працуюць яны на розных паверхах.

Прымяненне не знайшоў толькі басейн. Усе больш думаюць, як абагрэць дзяцей зімой.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

### На любой мове

***АСТРАВЕЦ. Хор польскай песні "Прамень" са Шчучына нядаўна наведаў Астравеччыну і выступіў з канцэртамі.***

У касцёле Косма і Дзям'яна, у РДК, у Варнянах і Кямелішках да іх прыхільна паставіліся гледачы, бо песні выконваліся не толькі на польскай, але і беларускай, украінскай, іншых мовах.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Рынга

***МЯДЗЕЛ. На асеннія канікулы па запрашэнні Польскага Таварыства рынга ў Варшаву ездзіла дэлегацыя АБС з Сырмежскай СШ.***

На мэце скаўтаў было знаёмства з тэхнікай і тактыкай гульні рынга. Гэты малады від спорту нагадвае валейбол і вельмі папулярны ў краінах Еўропы. Двойчы ў дзень праходзілі трэніроўкі ў школе №355 і Вайсковай Акадэміі Тэхнічнай. Адбыўся таварыскі матч Беларусь-Манголія-Польшча.

Дэлегацыю запрасілі ў Алімпійскі Камітэт, дзе іх прыняў і міністр спорту і турызму. Сустрэліся з кіраўніцтвам у Галоўнай Кватэры Саюза Польскага Харцэрства.

У бліжэйшы час сырмежскія скаўты збіраюцца наведаць школы ў Вілейцы і Маладзечне, дзе пазнаёмяць з гульнёй рынга і выступяць з паказальнымі выступленнямі.

*Бярнард ПАКУЛЬНІЦКІ.*

### На жаль

***МАЛАДЗЕЧНА. Журналісты недзяржаўных выданняў для сустрэчы з чытачамі сёння не прыедуць.***

Цэнтр Грамадскіх Ініцыятыў несвоечасова (згодна з дэкрэтам №5 прэзідэнта) падаў заяўку ў гарвыканком на правядзенне гэтага мерапрыемства, таму атрымаў адмову. Сустрэча пераносіцца, хутчэй за ўсё, на 5 снежня.

*Алесь КАПУЦКІ.*

### Ці будзе святло?

***СМАРГОНЬ. Абласны аддзел адукацыі даў афіцыйны адказ: дабудаваць сёмую школу ён не ў стане.***

Цяпер уся надзея на міністэрства адукацыі, якое пакуль што неафіцыйна, але абяцала дапамагчы.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

### Вера просіць ведаў

***ВАЛОЖЫН. 7 гадоў працуе нядзельная дзіцячая школа пры царкве святых Канстанціна і Алены. А нядаўна ўслед за дзецьмі за парты селі дарослыя.***

Каля 30 вернікаў па аўторках прыходзяць сюды, каб атрымаць адказы на рэлігійныя пытанні, падмацаваць веру ведамі. За некалькі дзён мясцовая кнігарня прадала больш за 10 кніг Закона Божага, іншую рэлігійную літаратуру.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

### Прэзерватывы

***ВІЛЕЙКА. У дзяржаўных магазінах у продажы з'явіліся прэзерватывы. Загад аб продажы гэтай прадукцыі выдала Міністэрства гандлю, выконваючы нацыянальную праграму барацьбы са СНІДам.***

У рамках праграмы яшчэ адно новаўвядзенне. Міністэрства аховы здароўя абавязала мясцовых медыкаў мяняць новыя шпрыцы на скарыстаныя. Праўда, у горадзе такі абменны пункт не арганізоўвалі - няма падстаў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Гульні чыноўнікаў

# Даведку выдаць! Суд сказаў

***АСТРАВЕЦ. Падобнай судовай справе знойдзецца мала аналагаў. Не з-за "крутога" бандыцкага сюжэту, а з прычыны сваёй прымітыўнасці.***

Інваліду ІІ групы апошняй вайны **Аляксандру Місніку**, які жыве ў доме №25 па вуліцы Новай, спатрэбілася даведка аб сямейным становішчы. Натуральна, што ён звярнуўся да загадчыка аддзела райвыканкома па кіраванні гарпасёлкам Астравец **Часлава Петрусевіча**.

Міснік жыве адзін, ягоная дачка таксама ў Астраўцы, а другая ў вёсцы Міхалішкі. Там яны і прапісаныя. І якое ж было здзіўленне ветэрана, калі яму выдалі даведку, дзе значылася, што А. Міснік пражывае не адзін, а з дачкой. Загадчык аддзела патлумачыў, што сам амаль кожны дзень бачыць дачку ў яго доме.

Другі зварот ветэрана суцяшальным для яго не стаў, і ён, каб устанавіць справядлівасць, звярнуўся ў суд. Там яго скаргу задаволілі і абавязалі выдаць даведку. Што і было зроблена.

*Іван КРУК, дэпутат райсавета.*

## Адным абзацам

■ На граніцы прайшла беларуска-літоўская сустрэча, прысвечаная заканчэнню лінейных работ па пракладцы валаконна-аптычнай лініі сувязі Мінск-Вільнюс. Цяпер тут вядзецца мантаж станцыйнага абсталявання і пасля месячнага тэставання адбудзецца падпісанне беларуска-літоўскага пагаднення ў галіне сувязі.

■ На ТВ-перадатчыку ў Стрэльчыках зроблены першы этап рэканструкцыі - заменены фідэр паміж перадатчыкам і антэнай. Гэта дазволіла палепшыць якасць і пашырыць зону ўпэўненага прыёму на 12-м канале. Гэтымі днямі ён будзе ўводзіцца ў эксплуатацыю. Усе работы вядзе дзяржпрадпрыемства "Міжгародняя сувязь".



## Падпіска - 98

Яшчэ з часоў антычнасці стаіць паўразбураны Калізей. Рымляне яго захавалі - няхай і ў такім выглядзе, негледзячы на рэвалюцыі, войны і непагадзь. У 80-я там здымаў адзін з эпізодаў свайго фільма вядомы Брус Лі, пасля чаго спецыяльная камісія правярала наяўнасць асобных камянёў. Ад Крэўскага замка XIII стагоддзя не засталося і таго за тэрмін відавочна меншы. Але ў Італіі знайсці ***"Рэгіянальную газету"*** вельмі цяжка, у адрозненне ад нас — у нашым рэгіёне

**ПАДПІСАЦЦА ЗНАЧНА ЛЯГЧЭЙ!**



Падпісная цана застаецца ранейшая:

на

1 месяц-8 тыс. р.

3 месяцы-24 тыс. р.

паўгода-48 тыс. р.

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

Бацькоўскія правы

# Чарга да прыёмнай маці

**МАЛАДЗЕЧНА. *Смерць 34-гадовай Ірыны Арнатовіч з вёскі Навасёлкі, можа, і засталася б па-за ўвагай грамадскасці, але некалькі месяцаў таму нябожчыца сваім учынкам упісала сумную старонку ў нашу свядомасць.***

У транзітнай зале чыгуначнага вакзала яна кінула хворага на пнеўманію 9-месячнага сына. А сама паехала да сяброўкі ў Краснае. Тыдзень шукалі маці. А ў той час маленькі Віталь з тэмпературай 39 быў на мяжы жыцця і смерці. Ірыну і яе мужа пазбавілі бацькоўскіх правоў на сына і 9-гадовую дачку.

Мы хацелі сустрэцца з Арнатовіч і зазірнуць ёй у вочы. Не паспелі.

Віталь знаходзіцца ў Барысаўскім доме дзіцяці. Калі пашчасціць, набудзе бацькоў. Але...



Шмат выпадкаў, калі такі падлетак своеасаблівa аддзячвае названым бацькам - збівае іх, адбірае грошы. Гены, ведаеце...

Калі на поўнае ўсынаўленне ідуць адзінкі, павялічваецца колькасць жадаючых узяць дзяцей пад апеку. Хай дзеці не называюць апекуноў "мама", "тата", затое дзяржава штомесяц будзе плаціць 2,5 мільёна на такое дзіця. Да 18 гадоў. І пазней, калі падлетак будзе вучыцца ў ВНУ, тэхнікуме, вучылішчы.

Пастанову ўрад прыняў у кастрычніку. На жаль, першымі пацягнуліся ў аддзелы адукацыі няўдалыя сем'і, у якіх дзеці самі не даядаюць, а дарослыя не працуюць.

Каб дарэмна не пражыць, трэба пабудаваць дом, пасадзіць дрэва і выхаваць дзяцей. Гадавалы Віталь, як і яго сябры з Барысаўскага дома дзіцяці чакаюць сваю прыёмную маці. Толькі дзе гарантыя, што, калі ён вырасце, не будзе дэспатам для прыёмных бацькоў, тыранам для сваіх жа дзяцей?

*Васіль САВІЦКІ,*
*фота Аляксея ФЯЦІСАВА.*

| ГОРАД/РАЁН | Колькасць дзяцей, якіх поўнасцю ўсынавілі (ад пач. года) | Колькасць сямей-кандыдатаў на ўсынаўленне (на сёння) |
|---|---|---|
| Маладзечанскі р-н | 🚶 | 👫 👫 |
| Маладзечна | Звестак няма | |
| Вілейскі р-н | — | — |
| Вілейка | 🚶 | 👫 👫 |
| Смаргонскі р-н | 🚶 | 👫 |
| Валожынскі р-н | 🚶🚶 | 👫 |
| Мядзельскі р-н | — | — |
| Ашмянскі р-н | 🚶 | — |
| Астравецкі р-н | 🚶 | — |

Штогод вясной дзень адчыненых дзвярэй праводзяць дзіцячыя дамы, дамы дзіцяці, школы-інтэрнаты ў Смаргоні, Лідзе, Гродне, Жодзіне, Салігорску, Ждановічах, Барысаве. Небагата іх наведвальнікаў. Узяць дзіця - адказнасць, ды і матэрыяльнае становішча некаторых сем'яў не дазваляе на гэта пайсці.

І ўсё ж, напэўна, справа ў спадчыннасці. У кодэксе аб шлюбе і сям'і запісана, што наяўнасць абсалютных супрацьпаказанняў па ўсынаўленні (псіхічныя захворванні, хранічны алкагалізм - за кошт чаго часцяком пазбаўляюць бацькоўскіх правоў на дзяцей) выключае магчымасць усынаўлення.

У спецшколе-інтэрнаце Вілейкі з 203 навучэнцаў 71 дзіця пазбаўлена бацькоўскай апекі. У Валожыне наогул школа-інтэрнат мае назву - "для дзяцей-сірот". Са 190 вучняў 95 працэнтаў - гэта сацыяльныя сіроты і "адмоўнікі" (пры жывых бацьках). Са слоў адміністрацыі школы, ёсць дзеці, якія могуць рабіць непрадказальныя ўчынкі. Напрыклад, кінуць у аднакласніка стулам, пырнуць нажніцамі.

Усынавіць дзіця, чые бацькі алкаголікі,- рызыка.

Міласэрнасць

# Ізраіль у чарговы раз шануе беларуса

***ВАЛОЖЫН. Пенсіянераў Антона Шніпа і яго жонку Надзею запрасілі ў пасольства Ізраіля ў Беларусі. Там галаве сям'і ўручылі медаль "Праведнік свету" і дакументы аб прысваенні звання ганаровага грамадзяніна Ізраіля. Такога гонару ўдастоены таксама жончын дзядзька Іосіф Сарока (пасмяротна).***

Гэта было 56 гадоў таму. Маладыя Шніпы, якія толькі сталі бацькамі, з рызыкай для жыцця далі сховішча дваім яўрэйскім дзецям - 4-гадовай Адзе і яе 2-гадоваму брацiку Якаву. Дзецям маладзечанскіх урачоў Бабкесаў, якіх акупанты знішчылі.

Спачатку малых схавалі на хутары вёскі Пугачы. А далей пераправілі да старэйшага родзіча Сарокі. Пасля вызвалення мясцовасці ад фашыстаў дзяцей перадалі па пакінутым бацькам адрасе родным у Маскву. Нядаўна Шніпы атрымалі ліст з Сан-Францыска. Ада, урэшце, знайшла сваіх выратавальнікаў. Раней яна працягвала час працавала ўрачом у Харкаве, а апошнія гады жыве ў Амерыцы.

*Сямён ШТЭЙНЕР.*

Жыццё наша

# Папрацавалі і пасвяткавалі

***СМАРГОНЬ. 14 лістапада работнікі сельскай гаспадаркі адзначалі свае прафесійнае свята. На ўрачыстым паседжанні падвялі вынікі жніва-97.***

Калгаснікі атрымалі ў якасці прызоў 2 халадзільнікі, вялікую колькасць тэлевізараў, веласіпедаў, пральных машын, дываноў і нават адзін відэамагнітафон.

Адзначаныя былі нават дырэктары двух школ, якія папрацавалі на калгасных палях лепш за ўсіх.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

**Ад рэд.** *Асноўная работа прадстаўнікоў іншых спецыяльнасцей такіх захвочванняў, як відаць, не прадугледжвае!*

Экалогія

# Брацкая магіла ў абгортках

***МАЛАДЗЕЧНА. 117 прадпрыемстваў маюць афіцыйны дазвол на выкід у паветра адходаў вытворчасці.***

ЗЛМК за год у сэрэднім выкідае каля 516 тон, "Электрамодуль" - 97. За гэта штомесяц бярэцца экалагічны падатак. Таксама за грошы забруджваюцца і рэкі.

Прасцей з канкрэтнымі асобамі. Сёлета на іх складзена 270 пратаколаў. 20 - за мінулы месяц. Штрафуюць за захоп зямельных участкаў, парушэнне правілаў водакарыстання, паляўніцтва, рыбалоўства, утрапэнне сметнікаў у дварах.

За чысціню адказвае ВА "Камунальнік". За сродкі фонду аховы прыроды пабудаваны палігон бытавых адходаў (гарадскі сметнік). Палігон мае цвёрды гліняны экран, які не дазваляе забруджаным вадкасцям пранікнуць у глыбіню.

Не ўсё адразу звозіцца за горад. Стыхійна ўтвараюцца сметнікі ля дамоў, пераважна ў прыватным сектары. А брацкая магіла воінаў за тэатрам "Батлейка" з-за нізкай культуры перыядычна закідваецца абгорткамі ад цукерак, марожанага.

*Людміла ГЛІНСКАЯ.*



Канец - справе вянец



# Да бога

***МАЛАДЗЕЧНА. Па вул. Будаўнікоў дзейнічае праваслаўны храм. Але некаторым вернікам, па іх сцвярджэнню, сорамна туды заходзіць.***

Мала таго, што будынак знешне нагадвае цыркшапіто, дык нақонт купала ў народзе анекдоты ходзяць.

Нарэшце, дзякуючы намаганням айца Аляксандра, пачалася "перабудова". І хутка ўзнімецца новы купал.

*Сяргей АНДРЭЕЎ,*
*фота Аляксея ФЯЦІСАВА.*

## З НАРАДЖЭННЕМ!

У рэгіёне прыбавілася новых грамадзян:

**Ашмяны. 28. 10** Віталь Шукеловіч, **03. 11** Вікторыя Кірдзік. (2)

**Смаргонь. 27. 10** Таццяна Ілюковіч, **28. 10** Юрый Шумко, **02. 11** Юлія Гнусарава, **07. 11** Анастасія Шаўцова. (4)

**Валожын. 16. 10** Анастасія Рафаловіч. (1)

**Мядзел. 29. 10** Анастасія Тачыцкая, **07. 11** Артур Клімовіч. (2)

*На гэтым тыдні ў розных гарадах зарэгістраваныя тры Насценькі. Самае моднае імя?*

## ВІНШУЕМ СА ШЛЮБАМ!

За **10.11-16.11** шлюб узялі наступныя пары:

**Ашмяны.** Юрый Вайцяховіч і Алена Хадзько, Аляксандр Цырашкевіч і Валянціна Міронава. (2)

**Смаргонь.** Віктар Шытко і Аксана Валынец, Юрый Мех і Ірына Кандзян, Алег Мароз і Алена Ляшчэвіч, Валянцін Вільчакаўскас і Наталля Заблоцкая (7).

**Валожын.** Аляксандр Сіві і Людміла Русіновіч, Генадзь Рудовіч і Святлана Конан, Васіль Астафураў і Іна Крутэнка, Юрый Сабіла і Ірына Зянько. (4)

**Мядзел.** Валерый Акуневіч і Людміла Гарынавец, Міхаіл Несцяронак і Марына Шуляк. (2)

*Прыносім прабачэнні супрацоўніцы Валожынскага ЗАГСа **Людміле Цаюн** за недакладнасць у напісанні яе прозвішча.*

## Незвычайная пастаноўка

# Марыя Магдалена пакаялася

***АСТРАВЕЦ. У мінулую нядзелю на сцэне РДК была паказаная інсцэніроўка "Мір'яна з Магдаліі".***

У ёй расказвалася пра жыццё Марыі Магдалены, якая пакаялася ў сваіх грахах і пасля гэтага стала на правільны шлях у жыцці. Інсцэніроўка прайшла на "ура" і пры перапоўненай зале.

Такі поспех рыхтаваўся, што называецца, не адзін месяц. Манашка сястра **Валянціна Арсоба** змагла сабраць дзяцей, каб арганізаваць гэты своеасаблівы тэатр.

- Падрыхтаваць гэтую сцэнку было не вельмі складана, - прызналася сястра Валянціна. - Я проста сама была прыемна здзіўленая тымі адносінамі і адказнасцю дзяцей, з якімі яны ставіліся да гэтай пастаноўкі на рэпетыцыях. І нават ужо на самой сцэне было відаць, як яны перажывалі разам са сваімі героямі.

Настаяцель касцёла Узвышэння Святога Крыжа ксёндз **Ежы** шчыра падзякаваў усім за гэтую інсцэніроўку і выказаў надзею, што такія прадстаўленні будуць час ад часу з'яўляцца на сцэне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ*

## Зірні на неба

# За ўсходам

*працяг, пачатак у №44*

***Да ўзыходу хвілін пяць.***

***Назіраю за туманам, як ён садзіцца над вадаёмам. Цуд! Сонечны праменьчык з'явіўся над вершалінамі дрэў. Неба пачынае пераліваццa рознакаляровымі фарбамі.***



Пайшоў да месца здымкі і зачапіў галінку куста. Спалохаў маленькую птушачку. А потым зрабілася так ціха! Вецер не шасне. А мне б хацелася, каб на вадзе з'явілася рабізна. Кінуў камяньчык, пайшлі па вадзе кругі. І тут выйшла з-за лесу Сонца! Здымаю адзін кадр, другі. Здаецца, з туманам кадры атрымаліся. Чакаю, калі туман разыдзецца, сонца заграе больш цёплымі фарбамі і з'явіцца адлюстраванне ў вадаёме. Раблю яшчэ два кадры.

*Аляксей ФЯЦІСАЎ, фота аўтара.*

## Крымінал, здарэнні, хроніка

# "Алмаз" - музыка ў стылі джаз

***ВІЛЕЙКА. Двое мясцовых, раней судзімых за крадзеж ядахімікатаў, і жыхар Барысава аб'ядналіся і пачалі займацца вымагальніцтвам.***

Ахвярамі іх сталі аўтааматары. Маўляў, набый шыкоўную іншамарку - плаці. Аднаго грамадзяніна прымушалі "адшпіліць" ажно 3800 долараў ЗША. Той звярнуўся ў камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, што ў Маладзечне. У аперацыі па затрыманні злачынцаў удзельнічалі "камітэтчыкі", спецыялісты мясцовага РАУС, спецпадраздзяленне "Алмаз".

*Аддзел інфармацыі.*

# Не праВАРОНІЛІ

***АСТРАВЕЦ. Ля вёскі Варона прыцягнуў увагу супрацоўнікаў пагранкамендатуры і інспектараў ДАІ аўтобус "Вольва". Двое мужчын і адна жанчына з суседняй Літвы гадзіну таму перасяклі мяжу ў пункце пропуску "Катлоўка". На груз разнастайнага адзення вагой у 2500 кілаграмаў, што знаходзіўся ў аўтобусе, у дакументах не было неабходных адзнак мытні.***

Выявілася, што пры афармленні неабходных дакументаў на груз "дапамогу" літоўцам аказаў інспектар Астравецкай мытні Ш. Штосьці перашкодзіла згодна з нормамі аформіць груз на мытні. Бюджэт страціў амаль 12 тысячаў долараў.

Следства працягваецца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# 6 гадзін у горадзе. На волі

***ВІЛЕЙКА. Гастралёры з Навапалацка прыехалі раніцой - раней судзімыя за кватэрны крадзеж. А 6-й гадзіне ўзяліся за справу, у дапамогу ўзялі больш за 100 узораў ключоў.***

На другой па ліку кватэры "пагарэлі". Жанчына, якая жыве па вул. Камарова, пайшла ў магазін. Вярнулася, а ў кватэры гаспадараць незнаёмцы. Можа, каб пераступіла парог - страціла б жыццё. А так злодзеі пад крык разгубленай і напалоханай жанчыны збеглі.

Запомніла іх некаторыя з суседзяў, а міліцыя спрацавала аператыўна. Ужо а 12-й гадзіне гастралёраў затрымалі.

Мясцовы РАУС у чарговы раз звяртаецца да жыхароў, каб тыя ставілі кватэры на сігналізацыю.

*Аддзел інфармацыі.*

# 5 супраць 10

***АСТРАВЕЦ. Так абставяць справы са здзяйсненнем злачынстваў сярод непаўналетніх у параўнанні з мінулым годам.***

- Прыемна, што злачынстваў паменшала, - зазначае інспектар РАУС па справах непаўналетніх **Уладзімір Мацкевіч**. - У асноўным, гэта крадзяжы маёмасці, дзе "на справу" хадзілі 5 падлеткаў. Найбольш буйны крадзеж - матацыкл "Усход-3".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# За капейку

***ВІЛЕЙКА. Увечары чацвёра 18-20-гадовых сабраліся на кватэры па вул. Стаханаўскай.***

Выпівалі, успаміналі. Раптоўна адзін і ўспомніў, што таварыш вінен яму некалькі тысяч рублёў. Паспрачаліся. Даўжніка моцна пабілі і выкінулі на вуліцу. Раніцой прахожыя яго ўбачылі, выклікалі міліцыю і медыкаў. Але выратаваць 20-гадовага хлопца не змаглі.

*Алена ІРЫСАВА.*

# Адпачынак з канфіскацыяй

***ВАЛОЖЫН. Канфіскавалі гумовую лодку, электравуды, а таксама спагналі 8,5 мільёна рублёў з некалькіх аматараў актыўнага адпачынку.***

Вызначыліся пяцёра мінчан, якія ноччу электравудамі лавілі рыбу на Сакаўшчынскім вадасховішчы.

Ад пачатку года ў раёне выяўлена 14 парушэнняў правілаў палявання і рыбалоўства.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Гарэлка скончылася

***ВІЛЕЙКА. Да бабулі ў вёску Абадоўцы прыехаў 14-гадовы ўнук. Сустрэўся з сябрамі адзначыў.***

Скончылася гарэлка і выратаваў шылі "пазычыць" яе ў сталоўцы. Прыхапілі таксама цыгарэты, грошы. Малады рабаўнік быў затрыманы, калі на аўтобусе ехаў дадому ў Мінск.

*Алена ІРЫСАВА.*

# Дом выратавалі

***АСТРАВЕЦ. Жыхар вёскі Газа Мікалай Севасцьянаў атрымаў пенсію і адразу ж завітаў у краму. Прыдбаў там 2 бутэлькі гарэлкі, чатыры пачкі цыгарэтаў, тое-сёе з прадуктаў і рушыў дахаты.***

На наступны дзень а 7-й гадзіне раніцы да яго дома імчаліся дзве пажарныя машыны. Гаспадар, напэўна, выпіў, лёг у ложак і закурыў. У выніку сам задыхнуўся ў дыме. Дом пажарным удалося выратаваць.

Гэта ўжо сёмы трагічны выпадак у раёне, падчас якога ў агні гінуць людзі. Статыстыка сумная, а год яшчэ не завяршыўся.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Спадчына

***ВІЛЕЙКА. У вёсцы Уладыкі Ільянскага сельсавета ноччу загарэўся хлеў побач з нежылым домам.***

Тэлефоны ў вёсцы не працавалі. Таму вяскоўцы на ўласнай машыне паехалі за 9 км у Ілью па дапамогу. Пажарныя прыехалі, калі хлеў поўнасцю згарэў, а дом дагараў. Гаспадыня былой маёмасці жыве ў Вілейцы. Усё ёй дасталося ў спадчыну. Не выключаецца магчымасць падпалу.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

# Рэйкавая вайна працягваецца. Народнымі мсціўцамі сталі падлеткі

***МАЛАДЗЕЧНА. Аддзел унутраных спраў на транспарце з мая па лістапад праводзіў аперацыю "Падлетак". Праваапарушэнні звычайна папярэджваліся. Усяго 7 разоў падлеткі білі шкло ў цягніках, 5 разоў клалі на рэйкі небяспечныя для руху прадметы, зафіксавана 5 выпадкаў раскамплектавання чыгункі, 2 няшчасныя выпадкі.***



Старшы інспектар ІСН **Уладзімір Казлоў** гаворыць, што самыя гарачыя хлопцы з Вілейскіх ПТВ.

На станцыі Гудагай 5 падлеткаў ішлі па чыгунцы і на працягу 3 км знішчалі ўсё, што траплялася на вочы. Старэйшы з кампаніі - 17-гадовы **Дзмітрый** (у адносінах да яго крымінальная справа не закрытая, таму прозвішча не пішам). А маладзейшы, 12-гадовы **Уладзімір Качкан** - вучань Лошскай базавай школы. Першапачаткова чыгунка налічыла страты на 40 мільёнаў рублёў. Пры больш дэталёвым разглядзе справы лічба зменшана да 27,5 млн. Усе грошы спагналі з бацькоў яшчэ да суда.

**<u>Са слоў супрацоўнікаў міліцыі.</u>**

Паспрачаліся 3 дзяўчынкі і 3 хлопчыкі (усім па 12-14 гадоў): ля вёскі Вязавец паклалі на рэйкі бярозавае бервяно даўжынёй 6 м. У нядзелю ўвечары ў дызелі Ліда-Маладзечна заўсёды шмат народу. Было цёмна, але машыніст прыкмеціў наперадзе нешта белае. Паспеў спыніць цягнік. Зафіксаваны выпадак падкладвання на рэйкі "башмака" неўстаноўленай вытворчасці, аднаго разу аўтаматычныя стрэлкі для пераводу рэйкаў заблакіравалі палкай.

**<u>Падчас аперацыі 58 непаўналетніх дастаўленыя ў аддзел за розныя правапарушэнні, 141 цягнік суправаджаўся супрацоўнікамі ІСН.</u>**

Фанаты мінскіх футбольных клубаў не назаляюць. Іх у электрычцы заўсёды "пасвяць" 5-6 міліцыянераў сталічнага ўзвода суправаджэння. А наогул, самае небяспечнае месца ў Мінскім накірунку да прыпынку Татаршчызна.

Пяцёра "колішніх" (адзін тры разы быў судзімы за рабаўніцтва) паехалі на госці ў вёску Краснае. Добра выпілі, на электрычцы вярталіся ў горад. У кампаніі дарослых 14-гадовы **Дзяніс Стальмакоў** з СШ №8 лічыўся завадатарам. Пад яго кіраўніцтвам і абрабавалі пенсіянерку, што ехала з рэчавага рынка. "Працавалі" па сістэме. Пры пад'ездзе да Татаршчызны двое трымалі дзверы тамбура, каб ніхто не ўвайшоў. Яшчэ двое трымалі ахвяру. А "піянер" з сумкі выцягваў рэчы. Імгненне - злачынцы выскачылі, а жанчына без рэчаў паехала далей.

**<u>Хвіліна прастою цягніка каштуе ў сярэднім да 500 тысяч рублёў. Вырваная нейкая жалезка абыдзецца нібы залатая. 2 лінзы і лямпачка да святлафора каштуюць 4 мільёны. Злодзеі ж дзеляцца на дзве асноўныя групы: 9-11-гадовыя і навучэнцы ПТВ.</u>**

9-гадовы М. на аўтобусным прыпынку на вул. Прытыцкага, насупраць пераезду, цікавіўся, як лепш даехаць да завода парашковай металургіі. Стомленыя дарогай людзі тлумачылі, каб дзіця (з выгляду першакласнік) не згубілася. У гэты час Тамара Зырыкава, навучэнка Радашкоўскай школы-інтэрната, выцягвала ў добразычлівцаў кашалькі.

11-гадовая І. часцяком бавіла час на чыгунцы, а дома, пасля выканання школьных заданняў, сужыцельствавала з сябрамі маці. Па словах Уладзіміра Казлова, пры размове дзяўчынка апісала 10 кліентаў, якія прыводзіла да яе маці. За апошнія 10 дзён.

*Васіль САВІЦКІ.*

